# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Аўторак, 6 верасня 1994 года | № 94 (10794) | Цана 30 руб.

## ПАЧАТЫ ПРЫЁМ ГРАМАДЗЯН

З 1 верасня ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пачаты прыём грамадзян. Ён будзе ажыццяўляцца па аўторках і чацвяргах з 10 да 13 гадзін па папярэдняму запісу ў кабінеце 152 Дома ўрада /тэлефон 29-64-21/. У першы аўторак месяца грамадзян прыме кіраўнік Адміністрацыі Леанід Сініцын, у другі — яго намеснік, начальнік службы кантролю Васіль Даўгалёў, у трэці — старшыня Камітэта па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання Юрый Малумаў, у чацвёрты — кіраўнік спраў Прэзідэнта Іван Ціцянкоў, у першы чацвер месяца — начальнік дзяржаўна-прававога ўпраўлення Аляксандр Марыскін, у другі — намеснік кіраўніка Адміністрацыі Міхаіл Сазонаў, у трэці — Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Акрамя таго, два работнікі ўпраўлення справаводства Адміністрацыі ажыццяўляюць штодзённы прыём грамадзян з 9 да 16 гадзін.

Па выніках работы першага прыёмнага дня выказана пажаданне: з мэтай аператыўнага вырашэння пытанняў той, хто прыходзіць на прыём, павінен мець пісьмовую заяву і адказы на папярэднія звароты ў органы дзяржаўнай улады і кіравання.

*БЕЛІНФАРМ.*

## НЕ АДРАДЖЭННЕ, А ДАЛЕЙШАЕ РАЗВІЦЦЁ

***беларускага пісьменства і культуры патрэбны ў школах і ўстановах Клеччыны. Да такога меркавання прыйшлі ўдзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася ў раёне***

Дзень беларускага пісьменства і друку на клецкай зямлі не абмежаваўся адным мерапрыемствам. Як паведамлялася ўжо, у апошнюю нядзелю жніўня ў горадзе адбылося раённае свята народнай музыкі, фальклору і песень "Чароўны куфэрак Клеччыны", на якім выступілі калектывы мастацкай самадзейнасці практычна з усіх гаспадарак раёна. А ў мінулую пятніцу раённы Дом культуры стаў месцам правядзення навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай святу.

Тут сабраліся настаўнікі-мовазнаўцы, гісторыкі, людзі, дзякуючы энергіі і таленту якіх жывуць і развіваюцца ў раёне музыка, песня, народны танец, прыкладное мастацтва. Прыемна, што разам з настаўнікамі на канферэнцыю прыйшлі вучні старэйшых класаў гарадскіх школ, якім праз год-другі выбіраць самастойныя шляхі-пуцявіны, будаваць сваю родную Беларусь. Найактыўнейшы ўдзел у правядзенні мерапрыемства прынялі члены мясцовага літаратурнага аб'яднання.

Адкрыў канферэнцыю намеснік старшыні раённага Савета дэпутатаў А.М.Жукоўскі. Цёпла павіншаваўшы вучняў і настаўнікаў з пачаткам новага навучальнага года, ён падкрэсліў, што такая канферэнцыя праводзіцца ў раёне ўпершыню, а таму мае вялікае значэнне, бо абмяркоўваецца адна з кардынальных праблем як сённяшняга, так і заўтрашняга развіцця не толькі мовы, але і ўсёй нацыянальнай культуры.

Аляксандр Мікалаевіч даў слова пісьменніку Уладзіміру Дамашэвічу, які вырас і атрымаў пуцёўку ў жыццё менавіта на клецкай зямлі. Уладзімір Максімавіч ахарактарызаваў шляхі развіцця беларускага пісьменства, пачынаючы ад "Слова аб палку Ігаравым" практычна да нашых дзён. Дырэктар Клецкага гісторыка-этнаграфічнага музея М.Д.Чорны акцэнтаваў увагу прысутных на лёсах і дзейнасці людзей, якія ў свой час жылі ў Клецку і ўнеслі значны ўклад у скарбонку беларускага пісьменства або нарадзіліся тут і праславілі родны край сваёй працай на гэтай ніве. Настаўнік гісторыі Даматканавіцкай сярэдняй школы А.А.Блінец падкрэсліў ролю гістарычнай навукі ў асвятленні падзей і дакументаў даўно мінулых дзён у сувязі з тым, што як у 60-я— 70-я гады, так і цяпер не абыходзіцца без яўных перагібаў у гэтай справе.

Члены літаратурнага аб'яднання Анатоль Курыльчык, Марыя Пабудзей, Іван Абабурка, Віктар Худавец, Галіна Нупрэйчык, расказалі прысутным, як прыйшлі яны ў свет паэзіі, як працуецца сёння з беларускім словам, прачыталі свае новыя творы.

Падагульняючы думкі і меркаванні, якія прагучалі на канферэнцыі, А.М.Жукоўскі зусім справядліва адзначыў, што і нядаўняе свята "Чароўны куфэрак Клеччыны", і гэтая размова прыводзяць да наступнай высновы: усе пяцьдзесят гадоў пасля Вялікай Айчыннай вайны вёска не адыходзіла ад каранёў сваёй культуры, сваёй мовы. Яна вылучала і вылучае са свайго асяроддзя людзей, якія развівалі і развіваюць нашу мову, нашу культуру, вусную і кніжную, а таму сёння ў раёне няма патрэбы гаварыць аб адраджэнні гэтых найхарактэрнейшых рыс нацыі. Жыццё ставіць пытанне аб іх далейшым грунтоўным і ўсебаковым развіцці.

*Іван КАВАЛЬ.*

## ЗАВІНЧВАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ГАЙКІ, АЛЕ І КРАНЫ. ГАЗАВЫЯ

А ў нас у кватэры газ! А ў вас? І ў вас таксама блакітны агеньчык гаспадарыць на кухні. А вось для многіх прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый, гаспадарак вобласці ён можа ўмомант знікнуць. Нават дзеці, якія гуляюць у гэтую гульню, ведаюць, што сёння нічога не даецца бясплатна. За ўсё трэба плаціць. І за газ таксама. Калі іх бацькі толькі пабурчаць са злосцю: ці спыніцца нарэшце рост цэн? — аднак усё роўна вымушаны ісці ў касу і плаціць, то дзяржаўныя прадпрыемствы застаюцца ў даўжніках.

Разумеем: сітуацыя складаная. Вытворчасць працуе не на поўную магутнасць. У кіраўнікоў галава баліць, дзе дастаць грошы на зарплату, набыццё матэрыялаў. Інакш — прастой. Плата ж за газ можа і пачакаць.

— Аднак дырэктары чамусьці забываюць, што і мы з"яўляемся юрыдычна самастойнай арганізацыяй, і для нас газ — той жа вытворчы матэрыял, як і для іншых галін народнай гаспадаркі. Яго нам прадае пастаўшчык. Дык чаму ж мы павінны бясплатна забяспечваць іншых? Хто нам кампенсуе нашы выдаткі? Мы не настолькі багатыя, каб займацца дабрачыннымі акцыямі. Не будзе ў нас грошай — не атрымаем газ і ўсе застанёмся ля разбітага карыта, — гавораць работнікі аб"яднання "Мінскаблгаз".

Сапраўды, у многіх запазычанасць за газ велізарная. Так, у жодзінскай ЦЭЦ яна склала 3.342 мільёны расійскіх рублёў, барысаўскім аб"яднанні "Экран" — 1.001 мільён, на Фаніпальскім доследна-механічным заводзе — 237,3 мільёна і г.д. У цэлым жа 123 прадпрыемствы вобласці не заплацілі на 31 жніўня газавікам 14.392 мільёны рублёў.

Наконт гэтага ёсць строгі Указ Прэзідэнта ад 15 жніўня за № 50. Там сказана: пад персанальную адказнасць кіраўнікоў забяспечыць безумоўную перадаплату за прыродны газ, электрычную і цеплавую энергію. А таксама ў тыднёвы тэрмін распрацаваць і ўзгадніць з тымі, хто забяспечвае спажыўцоў газам, электра- і цеплавой энергіяй, графікі пагашэння запазычанасці.

Варта аддаць належнае смеласці некаторых гаспадарчых кіраўнікоў — яны і на сённяшні дзень не прадставілі гэтых графікаў. Скажам, у Нясвіжскім раёне доўг 31 арганізацый складае 950 мільёнаў рублёў (расійскіх). І з іх 28 праігнаравалі ўказанне наконт графікаў. Як і Смалявіцкае райаб"яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі (яго доўг — 86 мільёнаў), Стаўбцоўскі філіял маторнага завода (202,4 мільёна) і шэраг іншых.

Як жа быць? Указ дае дакладны адказ: прымяняць да даўжнікоў, незалежна ад форм уласнасці, меры ўздзеяння аж да спынення ім падачы гэтых рэсурсаў. Вось камісія аблвыканкома па энергарэсурсах і вырашала, да каго прымяніць гэтыя суровыя санкцыі. І старшыня камісіі — намеснік старшыні аблвыканкома К.І.Туровіч, і яе члены ўважліва прааналізавалі сітуацыю, кожны выпадак неплацяжоў. Яны ж часам маюць месца ў выніку нашай неарганізаванасці, недысцыплінаванасці.

Спрацоўвае стары рэфлекс. Паліўна-энергетычныя рэсурсы мы заўсёды атрымлівалі бесперабойна. Маўляў, ніхто і зараз нікуды не дзенецца. Хто рызыкне перакрыць кран і тым самым спыніць завод ці фабрыку? І халодным душам для шэрагу гаспадарчых кіраўнікоў стала папярэджанне камісіі — не адшукаеце магчымасці да такога вось чысла разлічыцца за газ, тады спыніцца яго падача. А ў адносінах да тых, хто праігнаруе і гэтае папярэджанне, уступіць у дзеянне палажэнне Указа Прэзідэнта аб персанальнай адказнасці.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

**ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ**
**АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ**

## ТОЛЬКІ Б БЫЛА СЫРАВІНА

Трэці год у вёсцы Крупіца Мінскага раёна працуе прадпрыемства па перапрацоўцы насення алейных культур на алей закрытага акцыянернага таварыства "Рапс", або, як яго называюць мясцовыя жыхары, — рапсавы завод. Акцыянерамі-стваральнікамі гэтага завода з"яўляюцца 35 калгасаў і саўгасаў нашай рэспублікі.

Нядаўна я гутарыў з дырэктарам Крупіцкага рапсавага завода Віктарам Мікалаевічам Самсонавым і пацікавіўся, як ідуць справы сёння.

— Наш завод разлічаны на перапрацоўку 40 тон насення алейных культур у суткі, — паведаміў ён. — Аднак з-за недахопу сыравіны перапрацоўваем 30—35 тон. У асноўным гэта рапс і лён. Маглі б прыняць у якасці сыравіны і насенне сланечніку і соі, але іх нам не пастаўляюць.

Ільняны алей у асноўным прызначаны для тэхнічных патрэб, а рапсавы пастаўляем на камбінаты хлебапрадуктаў і Гомельскі тлушчавы камбінат.

Хочацца папракнуць Мінскі раён: тут толькі калгасы "Новы быт" і імя Гастэлы вырошчваюць рапс, таму і даводзіцца пасылаць уласны транспарт па сыравіну, як кажуць, за блізкі свет.

Акрамя асноўнай, развіваем і падсобную вытворчасць: выпускаем керамзітныя блокі, маем дрэваапрацоўчы цэх. Калектыў у нас маладзёжны, сярэдні ўзрост рабочых — 32—35 гадоў. Працуюць усе старанна і добрасумленна. Карацей кажучы, у нас падабраўся здаровы рабочы калектыў. Асабліва хочацца адзначыць трактарыста Васіля Парэчына, вадзіцеля Уладзіміра Русака, прасаўшчыка Юрыя Багуцкага, жароўшчыка Юрыя Карпава, гідра-таршчыка Уладзіміра Сімко і лабарантку Тамару Шарамет.

На заканчэнне хочацца паведаміць прыемную навіну для мясцовых жыхароў. Не пашкадаваўшы амаль 70 мільёнаў рублёў, дырэкцыя рапсавага завода выкупіла ў былой Пяцеўшчынскай бальніцы стары будынак радзільнага дома, адрамантавала і абсталявала там уласны харчова-прамысловы магазін.

*Георгій ЛЯНКЕВІЧ.*

*Васіль Рыгоравіч Цыбулька — кранаўшчык Бярэзінскай райсельгастэхнікі. Рабочы стаж — 25 гадоў на адным месцы. Ён старанны работнік, выдатны спецыяліст. Дарэчы, тут жа працуе дыспетчарам яго жонка Галіна Васільеўна, а старэйшы сын Аляксандр — вадзіцелем.*
*НА ЗДЫМКУ: В.Р.Цыбулька.*

*Фота Алены ПУСТАВОЙЦЕНКА.*

### ■ Маладзечанскія навіны

## І БУДЗЕ ХРАМ

... А менавіта — Свята-Успенскі сабор праваслаўнай царквы. Такое рашэнне прыняў Маладзечанскі гарвыканком, выдзеліўшы пад будаўніцтва зямельны ўчастак плошчай 0,9 гектара на рагу вуліц Скарыны і Будаўнікоў. Да заканчэння будаўнічых работ царкоўны савет вырашыў узвесці часовае памяшканне для правядзення набажэнстваў і арганізацыі нядзельнай школы для дзяцей. Маладзечанскае аддзяленне "Белбізнесбанка" з разуменнем аднеслася да гэтай справы, выдзеліўшы на ўзвядзенне памяшкання кароткатэрміновы льготны крэдыт.

У святочны дзень Успення Прасвятой Багародзіцы, які прыпадае на 28 жніўня, горад Маладзечна наведаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі, які правёў тут літургію і благаславіў узвядзенне храма. Яго указам прызначаны настаяцель будучага сабора — свяшчэннік айцец Уладзімір Кудрэвіч.

Праваслаўны храм будзе ўзводзіцца за кошт добраахвотных ахвяраванняў вернікаў, арганізацый, прадпрымальніцкіх структур.

## РАЗВІТАЛЬНЫ КАНЦЭРТ

Развітаннем дырыжора са створаным ім мастацкім калектывам стаў канцэрт народнага камернага аркестра рускіх інструментаў. Калектывам неардынарным, які дастойна прадстаўляе музычнае мастацтва нашай рэспублікі і ў блізкім, і ў далёкім замежжы.

Толькі што ён вярнуўся з гастрольнай паездкі па Германіі. Яна стала апошняй кропкай у творчым супрацоўніцтве дырэктара музычнага вучылішча Рыгора Сарокі і калектыву аркестра. Паездка арганізоўвалася па запрашэнню лайнц-клуба горада Донаверта, які аб"ядноўвае самых уплывовых і багатых грамадзян, на святкаванне яго 20-годдзя.

На канцэрт сабраліся госці з усіх куткоў Германіі. Праходзіў ён у лепшай канцэртнай зале, дзе іграў некалі вялікі Моцарт. Выступленне беларускіх музыкантаў мела бліскучы поспех.

І вось — расстанне. Справа ў тым, што Рыгор Сарока кіруе яшчэ і гарадскім сімфанічным аркестрам. Вось і выспела жаданне аддаць талент і сілы аднаму творчаму калектыву.

Застаецца спадзявацца, што і з новым кіраўніком Маладзечанскі камерны захавае сваё непаўторнае аблічча і канцэрты яго па-ранейшаму будуць радаваць аматараў музыкі.

## ДЛЯ АЎТАМАБІЛЯЎ — АСОБНЫ РЫНАК

Наколькі папулярны маладзечанскі рынак у гараджан і прыезджых, настолькі ён і цесны. Тут прадаецца ўсё: рэчы, прадукты харчавання, аўтамабілі, парасяты... У базарныя дні цяжка праціснуцца паміж радамі гандляроў, якія запаланілі не толькі прылаўкі, але і ўсе падыходы да іх.

Размовы аб неабходнасці ўзвядзення новага рынку вяліся даўно. І вось нарэшце прынята рашэнне аб выдзяленні для гэтай мэты трох гектараў у раёне вытворчага аб"яднання "Электрамодуль". Рэалізацыяй ідэі занялася фірма "БелСПІК". На новым рынку будзе ажыццяўляцца рэчавы гандаль і продаж аўтамабіляў. Ужо распачаты праектныя работы.

На тэрыторыі цяперашняга рынку пасля адпаведнай рэканструкцыі будуць прадавацца толькі прадукты харчавання.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

### ■ Сітуацыя

## РАЗВОД ПАД ВЯСЁЛУЮ МУЗЫКУ

КАЛІ НОВЫ ЧАЛАВЕК у час перазменкі наблізіцца да прахадной Салігорскай швейнай фабрыкі, якая ўжо некалькі гадоў мае статус народнага прадпрыемства "Калінка", слёзы замілавання на вачах з"явіцца могуць. Побач з кусцікамі — яркая турысцкая палатка, сядзяць жанчыны. З магутнага дынаміка нясецца бадзёрая музыка. А каля ўваходу на фабрыку — невялікі натоўп. Людзі, здаецца, сабраліся, штосьці святкуюць...

Але падыходзіш бліжэй — і бачыш на палатцы папяровую шыльду: "Офіс Незалежнага прафсаюза "Калінкі". Прамоўца праз гучнагаварыцель просіць жанчын не здавацца, стаяць да канца. Але чуюць яго не ўсе, заглушае музыка з дынаміка.

Аб ненармальным становішчы ў "Калінцы" мы не так даўно пісалі ў артыкуле "Развіццё капіталізму ў Салігорску" /МП № 76 за г.г.). Гаварылі аб тым, як работнікі аднаго з падраздзяленняў фабрыкі ўступілі ў Незалежны прафсаюз, пачалі заяўляць аб сваіх правах. Пасля чаго іх акцыянернае прадпрыемства "выпадкова" аказалася непатрэбным, без сыравіны і заказаў. З загадам дырэктара "Калінкі" В.Кавалевіча аб яго ліквідацыі. Многія швейнікі праявілі салідарнасць са звольненымі, выйшлі на вуліцу. Адначасова яны выставілі шэраг іншых справядлівых патрабаванняў да адміністрацыі фабрыкі. Большасць з іх былі задаволены.

Прытушыўшы канфлікт, кіраўніцтва фабрыкі тут жа прыняло рашучыя меры. Ды, здаецца, зусім не тыя, якія пагасілі б вугельчыкі недаверу паміж адміністрацыяй і часткай калектыву. У адрас Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі ад імя швейнікаў паляцела пісьмо, падпісанае В.Кавалевічам і старшынёй прафкома А.Кудзелка. У ім гаварылася, што амаль усе беды ў Салігорску — ад Незалежнага прафсаюза, актывісты якога "зрываюць работу прадпрыемстваў, агітуюць выступаць супраць кіраўнікоў". Таму ў пасланні гаварылася: "Мы пераканаўча просім Вас, Аляксандр Рыгоравіч, даць рашучы бой усім гэтым лайдакам, мы просім Вас выдаць Указ аб забароне дзейнасці незалежных прафсаюзаў і іншых палітычных рухаў, якія наносяць шкоду эканоміцы, на некалькі гадоў, да поўнай стабілізацыі народнай гаспадаркі рэспублікі". Хаця кожнаму больш-менш адукаванаму чалавеку зразумела, што адмяніць Закон аб прафсаюзах не ў сілах нават Прэзідэнт.

Адначасова В.Кавалевіч падпісаў загад № 265. Яго змест: калі члены Незалежнага прафсаюза такія разумныя, то няхай папрацуюць самастойна, пакажуць свае здольнасці. А таму маёмасць фабрыкі раздзяляецца паміж "незалежнымі" і "залежнымі" членамі прафсаюзаў. У апошніх пунктах загаду гаворыцца: "Папярэдзіць пярвічную арганізацыю Незалежнага прафсаюза НП "Калінка", што калі не будуць прыняты меры па арганізацыі сваёй вытворчасці на працягу двух месяцаў, работнікі, якія з'яўляюцца членамі Незалежнага прафсаюза, будуць звольнены з выплатай долі ўласнасці, якая ім належыць.

Кіраўніку аддзела кадраў папярэдзіць пярвічную арганізацыю Незалежнага прафсаюза НП і персанальна кожнага члена аб выключэнні іх з членаў народнага прадпрыемства "Калінка" і звальненні з 10 кастрычніка 1994 года".

Прызнаюся: не ўсё ў дзеяннях Незалежнага прафсаюза падтрымліваю. Асабліва калі яго актывіст дзеля ўласнай папулярнасці крычыць на мітынгу, што ўсе, хто працуе ў Доме Саветаў, — "тлустыя бараны". Не ўспрымаю іх сакрушальнай крытыкі ў адрас партакратаў, калі побач з выкрывальнікам стаіць і апладзіруе яму былы сакратар парткома. Згодзен з тым, што для вырашэння нават буйнога канфлікту не абавязкова заклікаць людзей на забастоўку, якая падрывае эканоміку не толькі горада, а і рэспублікі... Але ў даным выпадку мне бачыцца элементарная спроба хутчэй расправіцца з тымі, хто падаў голас у абарону сваіх правоў. Бо пасля "разводу" без патрэбнай сыравіны, матэрыялаў наладзіць вытворчасць за 60 дзён не зможа і кіраўнік, які меў бы, як кажуць, сем пядзяў лоб. Нарэшце, дзе гарантыя, што заўтра "Калінка" не пачне дзяліцца па рэлігійных ці нацыянальных прыкметах?

Зразумела, што на тэрыторыі "Калінкі" не знайшлося месца для офіса мясцовай арганізацыі Незалежнага прафсаюза. Як і яе старшыні, слесару А.Панкевічу. Які за дзевяць гадоў працы на фабрыцы не меў ні адной заўвагі. А пасля ўступлення ў Незалежны прафсаюз атрымаў запар тры вымовы. Пасля чаго тут жа быў звольнены...

Карацей, каша на "Калінцы" заварана крутая. Расхлёбваць яе прыедзе аўтарытэтная камісія са сталіцы, бо ў пошуках справядлівасці да Адміністрацыі Прэзідэнта ў сваю чаргу звярнулася і кіраўніцтва Незалежнага прафсаюза. У падтрымку яго пазіцыі ўжо выступіў прэзідэнт Амерыканскай федэрацыі працы і Кангрэса вытворчых прафсаюзаў...

А тым часам апоўдні з дынаміка "Калінкі" зноў нясецца бадзёрае:

— Мой ласковый и нежный зверь,
Я так люблю тебя, поверь...

Міжволі думаеш: на прадпрыемстве, якое называецца народным, сёння больш часцей звярынага, ненармальнага, чым любові, узаемаразумення. І гэта ніяк не вяжацца з паняццем дэмакратыі, пад сцягам якой і нараджалася "Калінка".

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## БАРЫСАЎЧАНЕ ЗВЯРНУЛІСЯ ДА ПРЭЗІДЭНТА

У апошні час у рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі паведамлялася аб тым, што лідэры Беларускага народнага фронту плануюць 8 верасня правесці палітычную акцыю — адсвяткаваць 480-ю гадавіну бітвы пад Оршай князёў Маскоўскага і Літоўскага.

Ветэраны Барысава лічаць, што гэта адмоўна адаб"ецца на адносінах паміж беларускім і рускім народамі. Члены прэзідыума гарадскога савета ветэранаў М.Афонін, М.Філонаў, Я.Лукашук, М.Тагай і В.Жукоўскі накіравалі на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі пісьмо-зварот. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Барысаўскі гарадскі савет ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл, выказваючы волю большасці ветэранаў горада, аднадушна падтрымлівае накіраваны да Вас зварот прэзідыума рэспубліканскага савета ветэранскай арганізацыі аб недапушчэнні правакацыйнай палітычнай акцыі лідэраў БНФ".

Ветэраны папрасілі Прэзідэнта выказаць свае асабістыя адносіны да данай акцыі.

*/Наш кар./.*

### Криминал

## СРАБОТАЛ ПЛАН „ПЕРЕХВАТ"

В первой половине дня в дежурную часть УВД облисполкома поступил сигнал об угоне автомашины «Опель-Кадет». Днем раньше эту автомашину вечером остановили у ГУМа в Минске двое мужчин и женщина. Они попросили отвезти их в микрорайон Уручье. На шоссе вблизи военного городка попутчики пригрозили пистолетом, завладели машиной. Затем приказали владельцу ехать в Борисовский район. Остановились в лесном массиве возле деревни Лавница, у хозяина иномарки отняли 113 долларов США, 20 тысяч «зайчиков», а сами сели в машину и испарились.

Был введен в действие план «Перехват». На мосту через реку Березина преступников задержали. Соучастницу преступления ищут сотрудники милиции.

Подобный случай произошел на 703-м километре шоссе Минск — Москва. Житель Франции на автомашине «Вольво» следовал в Витебск. По дороге взял пассажира. А после того, как попутчик вышел в районе Дома отдыха имени Я.Коласа, обнаружил пропажу портмоне с 30 немецкими марками, итальянскими лирами, водительским удостоверением.

*Виктор БЫКОВ.*

## УСПЕХ — ВО ВЗАИМОДЕЙСТВИИ

Оперативная обстановка в области по линии борьбы с имущественными преступлениями остается сложной. Эти виды преступлений определяют в целом состояние преступности, а удельный вес их продолжает расти.

Успех в этом деле зависит от своевременного сообщения о случившемся в органы внутренних дел. Особенно если дело касается хищения транспортных средств. На территории области пересекаются автомагистрали как республиканского, так и межгосударственного значения. Главная из них -- Москва — Минск — Брест. В прошлом году здесь совершено 33 преступления: 12 разбойных нападений, 3 грабежа и 18 краж из автомашин. Раскрыто 16 преступлений, причем успех во многом зависит от взаимодействия органов внутренних дел не только республики, но и других государств.

Например, 26 июня около 14 часов дня двое преступников на дороге вблизи деревни Новая Жизнь Смолевичского района под угрозой ножа завладели автомашиной «Аудио-100" и скрылись. Своевременно принятые меры позволили задержать автомашину с угонщиками в городе Ярцево Смоленской области. Преступники, которыми оказались жители Москвы, арестованы.

*Владимир ЛЕПЕШКО, зам.начальника отдела УУР УВД Минского облисполкома.*

■ Погляд на праблему

# СУЧАСНАЕ І БУДУЧАЕ САЛОДКАГА КАРАНЯ

*Выкананне рэспубліканскай праграмы "Цукар" патрабуе вырашэння шэрагу актуальных праблем, звязаных з паляпшэннем насенняводства цукровых буракоў, іх вырошчвання і перапрацоўкі*

**Цукровыя буракі — адзіная крыніца сыравіны для вытворчасці цукру ў нашай рэспубліцы. Іх пасяўныя плошчы (50—55 тысяч гектараў), аб"ёмы закупак каранёў (1.300—1.500 тысяч тон) і выпрацоўка цукру сёння вызначаюцца магутнасцю перапрацоўчых заводаў. А яна, гэтая магутнасць, вельмі недастатковая. Толькі хутчэйшае завяршэнне рэканструкцыі ўсіх чатырох прадпрыемстваў рэспублікі і будаўніцтва ў найбольш асвоенай сыравіннай зоне (Гродзенская вобласць) пятага дазволіць істотна павялічыць вытворчасць цукру. Стварэнне ж кампактных сыравінных зон вакол цукровых заводаў, паглыбленне спецыялізацыі буракаводчых гаспадарак садзейнічала б зніжэнню сабекошту каранёў, а значыць, і цукру.**

І ГЭТА НЕ ЎСЁ. Справы ўскладняюцца з-за адсутнасці парытэтных узаемаадносін паміж буракаводамі і перапрацоўшчыкамі. Пошук аптымальных рашэнняў пакуль не прывёў да поспеху. Цяпер жа, ва ўмовах рынкавых адносін, гэты вузел яшчэ больш зацягнуўся. Пры вострым недахопе перапрацоўчых магутнасцей на заводах існуе спакуса аднабаковага дыктату. У выніку адбываецца скарачэнне пасяўных плошчаў і вытворчасці буракоў у традыцыйных раёнах буракасеяння. Ужо сёлета, напрыклад, пасеяна на 3.000 гектараў менш, чым у папярэднім годзе. Таму трэба на заканадаўчай аснове вырашаць пытанні эканамічных узаемаадносін вытворцаў буракоў і перапрацоўчых прадпрыемстваў — ажыццяўляць акцыяніраванне, стварэнне асацыяцый і г.д.

Што датычыць Беларускай занальнай доследнай станцыі па цукровых бураках, то для інтэнсіфікацыі галіны яна стварыла і раяніравала мясцовыя сарты аднанасенных цукровых буракоў "ганусаўскі аднанасенны-55" і "беларускі аднанасенны-69" (іх аднапарасткавасць — 95 працэнтаў і вышэй). Яны маюць патэнцыяльную біялагічную ўраджайнасць 500—550 цэнтнераў каранёў з гектара і ўтрымліваюць 17,5—18,5 працэнта цукру. Арганізавана вытворчасць насення высокай усходжасці ў спрыяльных кліматычных зонах (Кыргызстан, Украіна). Дзяржаўная камісія па сортавыпрабаванню сельскагаспадарчых культур ацаніла і прапанавала гаспадаркам высокапрадуктыўныя сарты замежнай селекцыі "каведуха" і "гала" фірмы "КВС" (ФРГ), "матадор" і "крышталь" фірмы "Марыба" (Данія). Насенне гэтых і іншых заходніх фірм паступае ў рэспубліку на камерцыйнай аснове.

ВОПЫТ заходнееўрапейскіх краін і наш уласны сведчыць аб тым, што асноўным патрабаваннем у тэхналогіі вырошчвання цукровых буракоў з"яўляецца сяўба дражыраваным насеннем на канчатковую гушчыню (адлегласць у радку паміж калівамі — 16—18 сантыметраў).

Генеральны напрамак селекцыйнай работы — стварэнне гетэрозісных гібрыдаў на стэрыльнай аснове. Аднак у сучасны момант і ў бліжэйшыя гады вытворчасць будзе выкарыстоўваць у асноўным айчынныя дыплоідныя сарты. Але варта прызнаць, што на папуляцыйнай аснове ўсё цяжэй ствараць новыя сарты. Таму ў выніку рэалізацыі эфекту гетэрозісу (генетычных асаблівасцей розных сартоў) на змену ім прыйдуць ды- і трыплоідныя гібрыды.

Лепшыя пробныя трыплоідныя гібрыды, якія атрыманы на станцыі, дазваляюць павялічыць ураджай каранёў на 25—41 працэнт і збор цукру — на 25—46 працэнтаў, у той час як лепшыя дыплоідныя перавышаюць стандарт збору цукру толькі на 9—12 працэнтаў.

Вывядзенне сартоў і гібрыдаў буракоў — толькі першы этап работы. Таму для паспяховага іх укаранення ў вытворчасць вельмі важная правільная арганізацыя насенняводства. Вырошчванне цукровых буракоў на насенне ва ўмовах рэспублікі паказала, што атрымаць насенны матэрыял высокай пасяўной вартасці для вырошчвання гэтай культуры па прагрэсіўнай тэхналогіі не ўяўляецца магчымым. Аналіз якасці нарыхтоўваемага ў Беларусі насення за 1981—1985 гады сведчыць, што толькі крыху больш як 14 працэнтаў яго адпавядае патрабаванням першага класа (усходжасць больш як 80 працэнтаў). Да таго ж вырашчанае ў мясцовых умовах насенне губляе сваю ўсходжасць пры захоўванні, што не дазваляе ствараць яго пераходныя фонды.

ТАКОЕ становішча з насеннем сартоў-папуляцый. А ў перспектыве будзе створана толькі аднанасеннае, на стэрыльнай аснове, насенняводства, якое наогул немагчымае ва ўмовах рэспублікі. Насенняводства гэтых гібрыдаў у два-тры разы больш складанае. Яны могуць узнаўляцца толькі ў спрыяльных паўднёвых раёнах. Таму прапанову некаторых кіраўнікоў Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання аднавіць фабрычнае насенняводства цукровых буракоў у рэспубліцы лічым неабгрунтаванай.

Насенне, вырашчанае на поўдні, рыхтуе да сяўбы Гарадзейскі насенны завод. Аднак, калі передавыя насенныя заводы павышаюць усходжасць насення пры яго дапрацоўцы на 15—20 працэнтаў, то Гарадзейскі, пры існуючай тэхналогіі, — толькі на 1—2 працэнты. Сёлета тут не рэалізавана 180 тон насення. Буракасейныя гаспадаркі рэспублікі пачалі адмаўляцца ад яго. Яны лічаць, што лепш за валюту набыць дражыраванае насенне буракоў заходніх фірм. Таму пад сартамі замежных фірм сёлета занята каля 20 тысяч гектараў.

Павышэнне якасці насення мясцовых сартоў да ўзроўню замежных, забеспячэнне яго канкурэнтаздольнасці магчыма толькі пасля рэканструкцыі завода. Паколькі замежныя насенняводчыя фірмы зацікаўлены ў рэалізацыі ўласнага насення, наша станцыя прапануе весці рэканструкцыю рэспубліканскімі сіламі (цукровыя заводы, канцэрн "Белхарчпром", буракасейныя гаспадаркі). Закупляючы пры гэтым імпартнае абсталяванне, а не насенне.

Яшчэ раней навукова-вытворчае аб"яднанне "Цукровыя буракі" і Галоўнае ўпраўленне інтэнсіфікацыі раслінаводства і прадуктаў яго перапрацоўкі Мінсельгасхарча прыйшлі да вываду, што Гарадзейскі насенны завод трэба вывесці са складу саўгаса "Буракаводчы" і зрабіць яго самастойным прадпрыемствам. Навукова-метадычнае кіраўніцтва падрыхтоўкай насення павінна ажыццяўляць Беларуская занальная доследная станцыя па цукровых бураках. Такі крок дыктаваўся недастатковай зацікаўленасцю саўгаса ў паляпшэнні насенняводства цукровых буракоў, неабходнасцю больш эфектыўнага выкарыстання выдзеленых для рэканструкцыі завода валютных рэсурсаў. Бо ён з"яўляецца фактычна падсобным прадпрыемствам саўгаса.

ВЯЛІКІ ўрон народнай гаспадарцы рэспублікі прычыняе адсутнасць матэрыяльнага заахвочвання селекцыянераў за стварэнне новага сорту. Хіба можа мастак "за зарплату" стварыць цудоўную карціну, а пісьменнік — напісаць выдатную кнігу? Вядома ж, не. Стварэнне ж новага сорту — таксама творчасць. На жаль, селекцыянеры працуюць за голую зарплату.

Несправядлівая таксама наступная сітуацыя. Станцыя стварае новыя сарты і гібрыды, імкнецца хутчэй запусціць іх у вытворчасць. І нічога ад гэтага не мае. Выгаду ад новага сорту атрымліваюць усе тыя, хто ім карыстаецца. Станцыя застаецца на жабрацкім фінансаванні. Ніякім заканадаўчым актам у рэспубліцы не прадугледжана права стваральнікаў новага сорту мець ад гэтага матэрыяльную карысць.

Неабходна актывізаваць у рэспубліцы праектна-канструктарскія работы па стварэнню пнеўматычнай сеялкі дакладнага высеву. Патрэбны машыны для прыгатавання рабочых раствораў і ўнясення гербіцыдаў. Варта паскорыць стварэнне паўнавяснога пагрузчыка буракоў з буртоў і часовых кагатаў узамен СПС-4,2А.

З мэтай шырокага асваення тэхналогіі вырошчвання цукровых буракоў без прымянення ручной працы варта было б прадугледзець своечасовую закупку за мяжой прэпаратаў для апрацоўкі насення (аналагаў фурадану) і эфектыўных гербіцыдаў для ўнясення ў глебу восенню і вясной, а таксама ў фазе вілачкі раслін (голтыкс, бетанал, прагрэс, тарга, лантрэл і інш.).

Неабходна мець таксама гарантыі працяглай дзейнасці доследнай станцыі як дзяржаўнага прадпрыемства і захавання асноўных напрамкаў даследаванняў у галіне буракаводства. Трэба прыцягнуць здольныя кадры селекцыянераў, генетыкаў, біятэхнолагаў, спецыялістаў па мінеральнаму сілкаванню і ахове раслін, агратэхніцы цукровых буракоў, механізацыі іх вырошчвання. Варта прадугледзець навуковыя камандзіроўкі і стажыроўку супрацоўнікаў станцыі за межамі рэспублікі. З мэтай комплекснага вырашэння пытанняў, асваення навукова абгрунтаванай тэхналогіі вырошчвання цукровых буракоў і павышэння іх выходнай якасці трэба палепшыць дзейнасць НВА "Цукровыя буракі", стварыць пры кожным цукровым заводзе штат аграномаў-тэхнолагаў, замацаваных за пэўнай групай гаспадарак, якія павінны працаваць па адзінай праграме з Беларускай занальнай доследнай станцыяй. Замежныя фірмы, сумесныя і малыя прадпрыемствы, асобныя вучоныя і прыватныя асобы, якія працуюць (жадаюць працаваць) у галіне буракаводства, павінны прадстаўляць станцыі на экспертызу статут і дагаворы, мець узгодненую з намі праграму. Перыядычна іх дзейнасць павінна аналізавацца і заслухоўвацца на сумесных нарадах. Калі зможам працаваць у зададзеным рэжыме, беларускае буракаводства чакае добрая перспектыва.

*Іосіф ТАТУР, дырэктар Беларускай занальнай доследнай станцыі па цукровых бураках.*

■ Набалела!

# НІБЫ ЯГНЯТЫ ПЕРАД ВОЎКАМ

**Менавіта ў такой сітуацыі апынуліся нашы дзеці. Рынак-рабаўнік на вачах усяго грамадства робіць іх жабракамі. Замест нядаўняга, прывычнага: "Усё лепшае — дзецям" часцей гучыць трывожна-жахлівае: "Не дзярыце па жывому!"**

У абласным аддзяленні Беларускага дзіцячага фонду стала традыцыяй штогод да Міжнароднага дня абароны дзяцей вызначаць трох лаўрэатаў прэміі "Сябар дзяцей". Дарэчы, імі могуць быць людзі самых розных прафесій, званняў, рангаў, узростаў, нацыянальнасцей — настаўнік і доктар, пісьменнік і рабочы, кампазітар і работнік прылаўка, дырэктар прадпрыемства і акадэмік. Галоўнае — сапраўдная любоў да падрастаючага пакалення, падмацаваная канкрэтнымі справамі.

Сёлета, як ужо адзначала "Мінская праўда", такія прэміі прысуджаны старшыні калгаса "Новае жыццё" Салігорскага раёна С.М.Прохарчыку, настаўніцы-пенсіянерцы з г.Маладзечна С.Н.Пашкевіч і ўрачу-педыятру Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы В.С.Гурыновіч. Наш карэспандэнт сустрэўся з адным з лаўрэатаў — Верай Сямёнаўнай Гурыновіч і задаў ёй некалькі пытанняў.

***— Не сакрэт, што кожная жанчына нясе двайную нагрузку — праца плюс сям"я, дамашняя гаспадарка. Хацелася б пачуць, як вы ўмудраецеся спалучаць абавязкі гаспадыні кватэры, жонкі, маці з такой неспакойнай пасадай, як дзіцячы ўрач?***

— Сям"я для мяне заўсёды была надзейным тылам. І што самае дзіўнае, — не патрабавала многа часу. Так склалася, што на першым месцы ў мяне праца ў бальніцы, бо я ў адказе за лёс кожнага дзіцяці Мядзельшчыны. Муж Аляксандр Іванавіч, педагог па адукацыі, і сын заўсёды бачылі, сэрцам адчувалі, што на рабоце выкладваюся з поўнаю аддачаю сіл, таму ва ўсім стараліся мне дапамагаць. Прыемна адзначыць, што сын выбраў маю прафесію — урача. Відаць, мая неўтаймоўнасць, акрыленасць і захопленасць передаліся і яму. Для мяне, як маці, — гэта вялікае шчасце.

***— Вера Сямёнаўна, расказваюць, што ў вас ёсць дэвіз, якім вы кіруецеся штодзённа.***

— У кожнага чалавека ён павінен быць. Я асабіста кіруюся прынцыпам: "Паважай перш за ўсё сябе". Што я ўкладваю ў гэтыя словы? Калі чалавек паважае сябе, ён не зможа працаваць абы-як, не зможа пакрыўдзіць іншых, увязацца ў дрэнную кампанію, адмовіцца ад уласнага дзіцяці.

***— А хіба і на Мядзельшчыне ёсць такія выпадкі?***

— Колькі хочаце. Вельмі распусна пачала сябе паводзіць моладзь. Раней пальцам паказвалі на хлопца ці дзяўчыну, якія пасля заканчэння школы, вучылішча, тэхнікума ці вышэйшай навучальнай установы не спяшаліся ўладкоўвацца на працу. Сёння яны нават бравіруюць тым, што "вольныя птушкі". Такая свабода падштурхоўвае іх да розных антыграмадскіх учынкаў. Самае страшнае цяпер, бадай, тое, што маладыя людзі не даражаць каханнем. Дзяўчына ў чужы ложак кладзецца з першага дня знаёмства ці залазіць на гарышча з хлопцам, якога яшчэ нават па імені не ведае. А ў выніку нараджаюцца дзеці, ад якіх маладыя маці адмаўляюцца, нават не патрымаўшы іх на руках, не заглянуўшы ім у вочкі.

Мой працоўны шлях — амаль чатыры дзесяцігоддзі. Пачынала з курсаў ясельных медыцынскіх сясцёр, потым была вучоба ў Свярдлоўскім медыцынскім інстытуце. Астатняе — урач. І неяк не прыгадаю, каб дзяўчаты раджалі ў 13, 14 ці 15 гадоў. А цяпер нярэдка даводзіцца прымаць роды ў такіх "скараспелак". Вытлумачваю гэта самай звычайнай разбэшчанасцю, адсутнасцю высокай духоўнасці, прагай да сексуальнай асалоды і г.д.

***— Тут, напэўна, і сям"я недапрацоўвае?***

— Ніхто не зможа выдаць рэцэпт шчаслівага кахання, але сям"я, як ніхто іншы, у першую чаргу павінна даць дзецям разумную параду, засцерагчы іх ад выпадковых сустрэч. Адным словам, увесці іх у святыню кахання. А на самай справе што атрымліваецца? Хуткарослыя сыночкі і дачушкі з такімі пытаннямі не звяртаюцца да бацькоў. Яны ўсяму гэтаму вучацца з тэле- і кінаэкранаў. Ды і далёка не кожная сям"я дарасла да таго, каб даць сваім дзецям правільны кірунак, бо многія з такіх сем"яў распаліся ці маці наогул не ведаюць, ад каго ў іх дзеці.

***— Страшныя рэчы вы пачынаеце расказваць.***

— Ад праўды нідзе нам не схавацца. Ды і хавацца не трэба, калі побач з намі жывуць такія маці-"зязюлі". Вось і нядаўна я наведала вёску Шыкавічы, дзе жыве жанчына, у якой чацвёра дзяцей. І ўсе яны ад розных мужыкоў. Вырастуць і ніколі не даведаюцца, якога ж колеру вочы ў іх бацькі, што ўмелі выштукоўваць яго рукі, нарэшце, які характар, хіба толькі штосьці спадчыннае можа перадацца. Жанчыне гэтай яшчэ няма і 30 гадоў. А ў другой вёсцы па абавязку службы мне даводзіцца наведваць маці, якая нарадзіла 7 дзяцей. Заўважце, не кажу, што выхоўвае, бо трое з іх перададзены ўжо ў дзіцячыя дамы, такі ж лёс чакае і астатніх.

***— Вера Сямёнаўна, вы прывялі прыклады з жыцця жанчын, якія, вобразна кажучы, ужо дайшлі да ручкі. А як сёння жывецца звычайнай, скажам, нават узорнай сям"і?***

— Не ўкладваецца ў свядомасці тое, што адбываецца з нашай краінай, з нашым народам. Асабліва невыносна цяпер жанчынам, цяжка ад нестабільнасці, ад няўпэўненасці за будучае сваіх дзяцей. У што апрануць школьніка, калі звычайная кашуля каштуе 6—9 тысяч рублёў, штаны хлапчуковыя — 6—7 тысяч. Каб набыць школьны ранец, трэба выкласці 22—25 тысяч рублёў. Прабачце, што называю шмат лічбаў. Кожная з іх сведчыць аб тым, што нешта не тое робім у дачыненні да нашай будучыні. Босым у школу не адправіш, а каб абуць дзіця ў прасценькія сандалеты ці чаравікі, трэба адлічыць ад сваёй зарплаты 25 тысяч рублёў. А гэта значна больш, чым чалавек у вёсцы атрымлівае за цэлы месяц. А калі ў бацькоў не адно дзіця? Хто падкажа, як выжыць такой сям"і, як не звар"яцець ад пастаяннай нястачы? На "касмічную" вышыню ўзляцеў і кошт школьных прылад. Хутка веласіпед, мяч футбольны, дзіцячы гумавы мячык і многае іншае мы зможам убачыць толькі ў музеях, бо сённяшні сумленны чалавек купіць іх не ў стане, ніякі кашалёк не вытрымае: веласіпед цяпер каштуе больш ста тысяч, футбольны мяч — 30—35 тысяч, мячык дзіцячы гумавы — 2,5 тысячы. І як тут не згадаць мудрыя словы Антона Макаранкі: "Нашы дзеці — гэта наша старасць, правільнае выхаванне — гэта наша шчаслівая старасць, дрэннае выхаванне — гэта наша будучае гора, гэта нашы слёзы, гэта наша віна перад іншымі людзьмі, перад усёй краінай". Няўжо ніхто не панясе адказнасці за тое, што дазволіў рынку-рабаўніку здзекавацца з дзяцей, з тых, хто прыме ў нас эстафету.

Не лягчэй цяпер працуецца і медыкам. Калі б мне, скажам, дзесяць гадоў таму назад сказалі, што медыцынскія аперацыі будуць адкладвацца з-за адсутнасці лякарстваў, я пакруціла б пальцам ля скроні. А цяпер адкладваем. А што чакае медыцынскія ўстановы заўтра — адзін Бог ведае. Мы дажыліся да таго, што хворы, які атрымаў накіраванне ў бальніцу, павінен прыходзіць туды са сваёй пасцельнай бялізнай. Бальніца не мае сродкаў, каб набыць самыя простыя лекі. У мяне ствараецца ўражанне, што сённяшнія злачынныя адносіны да медыцыны кімсьці запланаваны. Трэба спахапіцца, працверазець (у самым добрым сэнсе гэтага слова) — і тады ўбачым, як мы завінаваціліся нашым дзецям, як запусцілі іх выхаванне, развіццё, адукацыю, як мала рабілі для ўмацавання іх здароўя, узбагачэння маральнымі каштоўнасцямі. Спадзяюся, што ў кіраўнікоў рэспублікі такое прасвятленне настане, бо далей так жыць нельга, трэба актыўна дзейнічаць, змагацца за дзяцей. Яны пакуль маленькія, а клопаты пра іх вялікія. Так і павінна быць, калі па-дзяржаўнаму глядзець у заўтра, калі, паўтаруся, сур"ёзна думаць аб новай змене.

Свой найгалоўнейшы абавязак я бачу ў тым, каб абараніць дзяцей ад чыноўнікаў, якія ад вострых праблем прыкрываюцца лозунгамі ды ўстарэлымі інструкцыямі, абараніць ад сіроцтва пры жывых бацьках, ад інваліднасці і ранняй смерці. Кажуць, калі адно дзіця ў бядзе — бяда ўсяму грамадству. Давайце задумаемся над глыбокім сэнсам гэтых слоў. І тады многае зразумеем, па-новаму глянем на свет.

*Уладзімір КОБРЫН.*
*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Бабулі, дзядулі

# ЧАЛАВЕК І БУЛАНКА

У шэсць гадзін раніцы пад вокнамі пансіяната пачуўся знаёмы з дзяцінства звон касы пад мянташкай. А затым і пасвіст яе па роснай траве. "Няйнакш Іван Андрэевіч завіхаецца", — падумаў я і выглянуў у акно. Так, гэта быў ён: з белай капой валасоў, у паношаным салдацкім мундзіры, стаптаных чаравіках. Сутулаваты. Пытаюся праз адчыненае акно: "Андрэевіч, не спіцца?". А ён у адказ: "Я, браце, з пяці гадзін раніцы на нагах — сялянская звычка. Паспеў памідоры паліць, бульбачку падакучыць у дачніка. А зараз у касу ўпрогся. Выходзь, падсабляй!"

Пазней, апоўдні, я бачыў яго ў падсобнай гаспадарцы пансіяната. Там Іван Андрэевіч Бабкоў завіхаўся ля свінарніка. Потым перапінаў на іншае месца буланую кабылу, пляскаў жывёліну пяшчотна па шыі і нешта гаварыў ёй. Адным словам, як я заўважыў, гэты чалавек, які разменяў восьмы дзесятак, з раніцы да вечара быў пры справе. А калі пасля вячэры адпачываючыя пансіяната збіраліся на танцы і культмасавік Міша расцягваў мяхі баяна, Іван Андрэевіч таксама танцаваў. У касцюме, белай, пад гальштукам, кашулі. У добрых чаравіках. Не прапускаў, бадай, ніводнага танца.

Вырашыў пазнаёміцца з Андрэевічам бліжэй. Чалавек ён гаваркі, ахвотна ўступіў у размову:

— Сем месяцаў ужо жыву ў інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. На лёс не скарджуся. Умовы добрыя. І харчаванне што трэба, і ў пакоях чыста, свежая бялізна. Аб такой у маладосці я нават марыць не мог, жывучы ў вёсцы на Палессі. Але ж чалавек — не жывёліна, для якой самае галоўнае — пад"есці. Гляньце на мае рукі. Я змалку на зямлі ўкалваў. Памятаю і голыя працадні, і сто грамаў збожжа на іх у канцы года. Меў у вёсцы свой дом, гаспадарку, падзарабляў промысламі. Вайну прайшоў — хапіла ліха па самую завязку. Нашых, 1920 года, на франтах выбілі працэнтаў на дзевяноста пяць — чуў пра гэта ад дасведчаных людзей. А мяне толькі параніла. Вярнуўся з вайны, ажаніўся, пяцёра дзетак з жонкай прыдбалі. Траім дапамаглі ўладкавацца ў жыцці. І тут бяда здарылася: памёрла жонка, пакінуўшы дваіх малодшых дзетак. Для мужчыны майго ўзросту такая страта — цяжкі пералом у жыцці. Ад сумоты і адзіноты пацягнула мяне да перамены месца жыхарства. Прадаў дом і купіў новы, на Віцебшчыне. Лазню пабудаваў, два хлявы, каб усё было сваё. Пазней там зяць з дачкой пасяліліся. І адчуў я сябе лішнім. Быццам і не крыўдзілі /я яшчэ ў стане сябе абараніць/. Але ўсімі пячонкамі-селязёнкамі адчуваў — лішні. Зноў пацягнулі мяне далі далёкія.

У Пухавіцкім раёне дапамог у калгасе сыну купіць дом. Палавіну сумы праўленне ўнесла, другую — я. Адкуль грошы ўзяліся? Я, браток, за зіму тон трыццаць лазы надраў, за лета тысяч сорак венікаў звязаў. Вось і грошы. Разлічыўся. Сталі жыць разам. Ды нядоўга жылі. Неўзлюбіла нявестка. Мулка стала мне спаць на сваёй пасцельцы, не раз ноччу ўспамінаў жонку-нябожчыцу. Шкадавала яна мяне пры жыцці, хоць і характар у мяне не падарунак, крутаваты.

Адчуў сябе зноў адзінокім, пакрыўджаным.

І вось апошні мой паўстанак — інтэрнат. Па старой завядзёнцы ні дня не магу пражыць без справы, рукі засвярбелі па рабоце. Падзяліўся думкамі са старажыламі інтэрната. А тыя мяне дакараюць: нашто табе ўсё гэта? Мы і так адчуваем сябе нядрэнна. Маўляў, сваё адрабілі, няхай цяпер нас абслугоўваюць. Злосць мяне ўзяла, хацеў сказаць, што думаю, ды стрымаўся — мне тут жыць і надалей. Пайшоў да дырэктара і выпаліў: "Буду рабіць усё што скажаце". Ён ахвотна згадзіўся. Даў мне паўстаўкі дворніка. Гэта ў той час было 50 тысяч рублёў. Так і кручуся, нібы вавёрка ў коле.

Мяне тут, у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, ужо ведаюць. Трэба каму вепрука закалоць — клічуць Андрэевіча. Разбяру як след. Заплацяць і чаркай, і скваркай. Дачнік паблізу ад інтэрната катэдж узвёў, вайсковец на пенсіі. Агарод засеяў. Дапамагаю яму палоць градкі, паліваць. Люблю корпацца ў зямлі, адчуваю сябе "ў сваёй талерцы". Пры такой працы мне не страшныя нават солі ў суставах. Было такое са мною гадоў пятнаццаць назад. Дык я купіў веласіпед і кожны дзень па трыццаць кіламетраў "накручваў". Не толькі па рабоце — для ўцехі душы і цела. Перасталі трашчаць мае суставы! Цяпер нават забыў пра гэтыя солі.

— А ці ёсць сярод жыхароў інтэрната вашы паслядоўнікі ў рабоце?

— Адзін ці два, не болей. Астатнія недалюбліваюць мяне за тое, што ўсюды, маўляў, нос суну. Але я не звяртаю на іх увагі.

Аднойчы позна вечарам я стаў сведкам незвычайных "перамоў" Івана Андрэевіча з буланай кабылай, што пасвілася паблізу ад пансіяната. Ён паклікаў яе. І ў той жа момант пачуўся ў адказ радасны водгук буланкі. Іван Андрэевіч пайшоў насустрач жывёліне, кабыла — таксама, хоць і стрымлівала яе вяроўка.

Сустрэўшыся, чалавек абняў буланку за шыю і загаварыў з ёю на даўнім сялянскім лексіконе, які, напэўна, зразумелы кожнаму рабочаму каню.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*Вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна.*

■ Працягваем тэму

# ВЕШАНКІ ЗАМЕСТ СНАРАДАЎ

## знаходзяцца на складах былога ваеннага гарадка

Год назад мы змясцілі артыкул «Канверсія паўрэцкі». У ім гаварылася аб вельмі непрывабным выглядзе ваеннага гарадка, які пакідалі расфарміраваныя часці. Частку маёмасці асобныя афіцэры, прапаршчыкі раскралі, другую — хтосьці па-варварску пабіў, паламаў. Па ваенным гарадку нібы вораг прайшоў...

Я бачыў, як балюча ўспрымаў гэты пагром дырэктар Урэцкага спіртзавода Я.М.Анісімаў. Бо менавіта іх калектыву пераходзіла ўсё, што заставалася пасля ваенных. Глядзеў Яўген Мікалаевіч на сляды вандалізму, перажываў, але не ўпадаў у адчай.

— Вось на гэтых боксах зробім дах, павесім дзверы — прыстасуем пад склады, — прыкідваў ён. — Тут абсталюем цэх па перапрацоўцы яблыкаў. А там паспрабуем зманціраваць лінію па разліву гарэлкі.

Ці не засталіся планы кіраўніка пустымі словамі? Для рамонту, рэканструкцыі дзесяткаў вялікіх і малых аб"ектаў, якія дасталіся ў спадчыну спіртзаводу, год — тэрмін, вядома, невялікі. Нядаўна я зноў пабываў ва Урэччы, што ў Любанскім раёне. І пераканаўся: канверсія ў былым ваенным гарадку ўжо цяпер дае адчувальныя вынікі.

Праклалі каля двух кіламетраў чыгункі. Сапраўднай вытворчасці без пад"язных пуцей ніяк нельга. Перакрылі каля чатырох тысяч квадратных метраў даху. У гарадку даўно выветрыўся парахавы дым, цяпер там моцна пахне хвояй.

— Купіць паламаныя ці украдзеныя вокны, дзверы нам проста не па кішэні, — гаворыць Яўген Мікалаевіч. — Вось мы і абсталявалі ў былым ваенным гарадку цэх па перапрацоўцы драўніны. Потым, думаю, наша прадукцыя пойдзе і на продаж. Бо ў сталярнай майстэрні працуюць вопытныя спецыялісты.

Я бачыў сталы, змайстраваныя ў былым ваенным гарадку — прывабныя, надзейныя. Ды і іншую мірную прадукцыю, якую давялося нават пакаштаваць. Гэта — грыбы вешанкі. У капітальна адрамантаваных памяшканнях стварылі патрэбны мікраклімат і пад кіраўніцтвам мікрабіёлага Аксаны Камінскай за мінулыя тры месяцы атрымалі каля пяці тон далікатэснай прадукцыі. Грыбы прадаюцца ў свежым выглядзе, сушацца. Добра дапаўняюць стол і агуркі, памідоры з мясцовай цяпліцы, якія вырошчвае былы ваенны повар прапаршчык Уладзімір Чаратун. А хутка ў адрас фірмы «Крышталь» пойдзе і сок — ужо зманціравана лінія па перапрацоўцы яблыкаў, дастаўлены ёмістасці для захоўвання гатовай прадукцыі.

Аднаўляецца раскурочаная кацельня, адсюль гарачая вада пойдзе не толькі на аб"екты былога ваеннага гарадка, а і ў цэхі завода. Дзейнічае механічная майстэрня з такарным, фрэзерным станкамі. Непадалёку будуць абсталяваны палі фільтрацыі для ачысткі прамысловых сцёкаў...

— Усё ж многіх цікавіць, ці будзе ў продажы гарэлка ўрэцкага разліву, — пытаюся ў Я.М.Анісімава.

— Ад такіх планаў мы не адмаўляемся, — адказвае Яўген Мікалаевіч. — Сапраўды, які сэнс вырабляць спірт-рэктыфікат, адгружаць яго ў Мінск, адтуль прывозіць гарэлку? Лінію па яе разліву мы пастараемся зманціраваць, памяшканні ёсць. Толькі не хапае сродкаў, каб адразу ажыццявіць усё задуманае.

— Галоўны будынак гарадка — салдацкую казарму як скарыстаць думаеце?

— Лёс яе пакуль што не вырашаны. Меркавалі разліваць там мінеральную ваду — ёсць яна ў нашых мясцінах. І пластмасавыя бутэлькі пад ваду ў былой казарме выпускаць меркавалі. Ды папярэдняя здзелка з адной паўднёвай краінай сарвалася. Ёсць іншыя праекты...

Карацей, кіраўніцтва спіртзавода асвойвае былы ваенны гарадок грунтоўна, усебакова. Ад аб"ектаў, якія не так даўно прыносілі дзяржаве адны страты, сёння грамадства атрымлівае пэўную выгаду. Ёсць карысць і для спіртзавода: прадпрыемству дасталіся дармавыя будынкі. Задаволены маёр запасу Антон Падліпскі, прапаршчыкі Уладзімір Мароз, Юозас Кукульскіс і многія іншыя былыя ваенныя — яны пасля звальнення з арміі знайшлі для сябе працу там жа, дзе і служылі.

Але працэс урэцкай канверсіі нельга маляваць толькі ружовымі фарбамі. Вельмі ўжо нялёгка даецца ён. Прычына не новая — востры недахоп сродкаў. Тая ж чыгунка «з'ела" значную частку гадавога прыбытку спіртзавода. Штомесяц трэба плаціць 14-ці вартаўнікам, інакш могуць расцягнуць і тое, што набылі. А работы — непачаты край...

Вядома, перспектывы былога ваеннага гарадка, асабліва пад эгідай такога прадпрыемства, як спіртзавод, вабяць многіх бізнесменаў. Ёсць цікавая прапанова і з-за мяжы. Я.М.Анісімаў пакуль што ўсур"ёз іх не ўспрымае. Яму непрыемна ад адной думкі, што хтосьці зможа нядрэнна нажыцца на тым, што стваралася рукамі ўсяго нашага народа.

— Таму вельмі хацелася б, каб у рамонце, рэканструкцыі гарадка нам дапамаглі сродкамі з бюджэту, — гаворыць Яўген Мікалаевіч. — Вядома, з пераабсталяваннем гарадка мы справімся і ўласнымі сіламі. Толькі гэта можа заняць даволі многа часу. На працягу якога частка аб"ектаў не будзе даваць аддачы людзям.

Заводу трэба абавязкова дапамагчы. Дзеля карысці для ўсіх нас. А ў тым, што ўрэчаўцы і самі справяцца з адказнымі задачамі, я ніколькі не сумняваюся. Бо яны — дзелавыя людзі, сапраўдныя майстры. У чым я добра пераканаўся.

*Уладзімір ПОЛІН.*

